**адна зямля**




Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 мая 2004 года

№20 (471)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года

Тэлетыдзень


**Навіны рэгіёну**



## Шукаюць бацькоў

ВАЛОЖЫН. У пятніцу ў школе–інтэрнаце праходзіць Дзень адчыненых дзвярэй. 158 выхаванцаў-сірот чакаюць новых бацькоў. Летась двaіх дзяцей усынавілі італьянцы, 7 дзяцей засталіся ў беларускіх сем'ях, 4 з іх забралі валожынцы.

**Наталля Штэйнер.**

## Знікла сувязь

АСТРАВЕЦ. У чацвер ад 9.00 да 10.00 дазваніцца ў Астравецкі раён было немагчыма. Як паведамілі "РГ" начальнік вузла электрасувязі **Міхаіл Сяневіч**, сувязь раптоўна знікла па невядомай прычыне. Няспраўнасць ліквідавалі.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Пажар у фермера

ВІЛЕЙКА. У ноч на 11 мая загарэўся хлеў фермера ў вёсцы Куляшы Хаценчыцкага сельсавета. Згарэлі 3 каровы, сена, салома. Падазронага ў падпале затрымалі.

**Святлана ЦІШКО.**

## Будзе кірмаш

МАЛАДЗЕЧНА. Абласны кірмаш пройдзе ў суботу, 15 мая. Гандляваць, спяваць і танцаваць госці і гаспадары будуць цэлы дзень. Не абыдзецца і без паказу мадэляў–пераможцаў апошняга конкурсу "Залатыя нажніцы".

**Мікола ГАЙДУК.**

## Маленькія міс

МЯДЗЕЛ. Тут прайшоў конкурс "Міс Цалёвачка" для выхаванак садоў і пачатковых класаў школ. Галоўны тытул заваявала **Саша Клімовіч**. Падарункамі ўдзельніцам былі мяккія цацкі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

## Падарункі ад мытні

АШМЯНЫ. Настольныя гадзіннікі, посуд і кветкі падарылі ветэранам вайны 7 мая супрацоўнікі мясцовай мытні. З віншаннем выступіў начальнік мытні **Іван Ніваркевіч**. Прайшоў канцэрт.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Тэлефон – у дом

СМАРГОНЬ. 30 інвалідаў і ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, што жывуць у вёсках, будуць мець тэлефон да канца мая. 19 з іх ужо з апаратам. Тэлефанізацыя тых, хто стаіць на чарзе, праводзіцца за кошт аблвыканкама і Гроднааблтэлекама.

**Ірына РАБУШКА.**


Купляем якасную **асіну**
дыяметрам ад 26 см і даўжынёй кратнай 1,65 м.
(8-029) 6756791


# Нашы едуць у Аўстралію

**МАЛАДЗЕЧНА. Вучань 11 класа школы-ліцэя №7 Аляксандр Нікіцкі прыме ўдзел у міжнароднай алімпіядзе па біялогіі, якая адбудзецца ў сярэдзіне ліпеня ў Аўстраліі. Гэта права ён заслужыў, калі стаў адным з пераможцаў рэспубліканскіх спаборніцтваў, якія прайшлі ў Гродне.**

Саша атрымаў Дыплом I ступені. Гэта другое месца сярод 89 удзельнікаў. Усяго Дыпломы I ступені былі ўручаныя шасці пераможцам, сярод якіх яшчэ адзін адзінаццацікласнік школы-ліцэя №7 **Сяргей Карпук**. Прызы – аўдыёмагнітафоны кітайскай вытворчасці і фотаздымкі з вывай птушак.

Для таго, каб вызначыць чатырох прадстаўнікоў Беларусі ў міжнароднай алімпіядзе, у Мінску на базе біяфака БДУ з 21 па 30 красавіка прайшоў адборачны тур, на якім прэтэндэнты рашалі тэставыя кантрольныя і слухалі лекцыі па тэмах, што могуць сустрэцца на спаборніцтвах у Аўстраліі.

Схільнасць да біялогіі Саша праяўляў змалку. Яму падабалася займацца з зямлёй і ўсім, што на ёй расце ў бабулі на дачы. З часам на гэты яго інтарэс звярнула ўвагу настаўніца біялогіі **Таццяна Сушынская**. Яна стала працаваць з таленавітым вучнем і ў выніку развіла здольнасці юнага біёлага.

"Што трэба, каб перамагчы ў маштабах планеты?" – спытаў я ў яго. "Чытаць, чытаць і чытаць", — быў адказ. Саша ўжо прачытаў усю літаратуру, што яго цікавіць, у маладзечанскай гарадской бібліятэцы. "Не хапае матэрыялу, — кажа ён, — электронныя варыянты кніг перадаюць знаёмыя і выкладчыкі біяфака БДУ. Для работы патрэбны камп'ютэр, а яго ў мяне няма. Добра, хоць дазваляюць працаваць на камп'ютэры ў школе ў любы час, калі мне гэта трэба. А ўвогуле вельмі дарагая літаратура, дарагая інфармацыя". Таццяна Сушынская на прэмію, што атрымала за падрыхтоўку вучняў да рэспубліканскай алімпіяды, на кніжным рынку ў Мінску купіла Сашу літаратуру. Там дзешавей.



Саша Нікіцкі: без камп'ютэра цяпер нельга.

Фота Сяргея МАЦЮШОВА.

Біялогія – не адзінае захапленне. У свой час хлопец скончыў мастацкую школу, займаўся авіямадэліраваннем. Акрамя біялогіі, падабаецца хімія. Гэта зразумела. Дысцыпліны паміж сабой блізкія. Раней падабалася мастацкая літаратура. Цяпер, па-першае, на яе не хапае часу, па-другое, як высветлілася, там не ўсё — праўда. Адзін раз на тыдзень гуляе ў тэніс на корце каля 14-й школы. Часцей не атрымліваецца: няма часу. "Увогуле, корт закрыты, — гаворыць Саша, — лазім праз агароджу, гуляем. Пакуль ніхто не выганяў". А гуляю, каб не нажыць хваробаў ад сядзячага ладу жыцця". З-за недахопу часу тэлевізар не глядзеў ужо 2 гады. Спаць раней дзвюх гадзін не кладзецца.

У алімпіядзе на зялёным кантыненце прымуць удзел прадстаўнікі 40 краінаў. Для кожнай з іх заданні будуць перакладзеныя на родную мову. Пераважна на англійскую і рускую. Будзем "хварэць" за ўсіх беларусаў, але больш, канешне ж, за Сашу.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**

## Таннае адзенне

Паношаным адзеннем з Еўропы і ЗША гандлююць сёння ў 9 магазінах горада і на рынках прыватныя прадпрымальнікі.




3-я старонка

## Гута «Залессе»



Існуе у Вілейскім раёне прадпрыемства, якому каля 235 гадоў, — гэта шклозавод "Залессе".

8-я старонка


**Кампанія «Славнефть»**
рэалізуе ў Вілейцы
са склада нафтапрадуктаў:
- **бензін** А-76, А-92, А-95,
- **дызпаліва**,
- **масла**

ў шырокім асартыменце – па аптовых цэнах.

Тэл./факс: (01771) **33771**, **33794**.

Ліц. №09100-0112517 ад 23.01.2004/2009 г.

# Вілейская энцыклапедыя

**ВІЛЕЙКА. Больш за 700 экзэмпляраў гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць: Вілейскі раён" неўзабаве з'явіцца ў продажы.**

У Палацы культуры 5 мая адбылася прэзентацыя. Запрошаныя аўтары, ветэраны, усе, датычныя да выхаду кнігі, атрымалі яе бясплатна. Выхад гісторыка-дакументальнай хронікі Вілейскага раёна з'ўляецца часткай агульнанацыянальнай кампаніі. На дадзены момант выйшла 120 тамоў са 146 запланаваных.

Найбольшую ўвагу на прэзентацыі атрымаў савецкі перыяд і асабліва перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Але аднабаковасці гістарычнай памяці ўдалося пазбегнуць і аўтарам кнігі, і арганізатарам канцэрта. Прысутныя хвілінай маўчання ўшанавалі памяць паўстанцаў, рэпрэсіраваных, усіх загінуўшых землякоў.

Напярыканцы прэзентацыі вядучыя загадчык аддзела культуры **Сяргей Паўлоўскі** і дырэктар цэнтра эстэтычнага выхавання **Таццяна Захарыч** запрасілі на сцэну для выступлення прадстаўнікоў аўтарскага калектыву, улады, гасцей.

Найвялікшая частка працы ў стварэнні кнігі лягла на плечы ўкладальніка, старшага навуковага супрацоўніка Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея **Вольгі Коласавай**. Яна адзначыла, што не было яшчэ такой кнігі, на старонках якой гэтак поўна адлюстравана гісторыя нашага краю, яго людзі. Падзякаваўшы ўсім за дапамогу ў выданні кнігі, Вольга Коласава выказала ўпэўненасць, што хроніка "Памяць" стане раённай энцыклапедыяй.

**Міхаіл Башлакоў**, галоўны метадыст Арганізацыйна-метадычнага цэнтра па выданні гісторыка-дакументальных хронік "Памяць", высока ацаніў узровень кнігі і ролю ўкладальніка Вольгі Коласавай. Супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук **Міхаіл Чарняўскі** назваў кнігу адным з каранёў магутнага дрэва беларускай памяці, якая часам мацней арміі, авіяцыі і флоту. **Таісія Лянкевіч**, дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея, што ў Маладзечне, уручыла Вользе Коласавай кнігу "Памяць: Маладзечна. Маладзечанскі раён".

Пасля афіцыйнай часткі і ўручэння кніг ветэраны фатаграфаваліся на ганку Палаца культуры.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**




**Выдатнік народнай асветы БССР і СССР Любоў Міхайлава была сярод запрошаных на прэзентацыю хронікі "Памяць: Вілейскі раён", што адбылася 5 мая ў Палацы культуры.**

Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

■ ДУМКІ ЎСЛЫХ

## Свая ношка не цяжка

Амаль кожную нядзелю ходзім з дзецьмі ў гарадскі парк. Адпачыць, падыхаць свежым паветрам, пагуляць у мяч. Футбаліст з мяне ніякі, таму хлопцы, як толькі знаходзім вольную лавачку, адразу ж прапаноўваюць: гуляем у ядомае і неядомае. Час ад часу наша кампанія папаўняецца. Да яе далучаюцца маладая мама з хлопчыкам-інвалідам. "У Руслана хворыя ножкі, — тлумачыць жанчына, — а рукі моцныя, таму мяч яму можаце кідаць смела".

Я так і не спыталася пра хваробу яе сына. Навошта лішні раз трывожыць сэрца, якое не перастае верыць, што бяда адступіць і яе Руслан таксама зможа паганяць па парку мяч. Проста стала вучыцца ў яе цярпенню і мужнасці, у пары з якімі маладая маці ідзе па жыцці. Не раздражняючыся, не наракаючы на лёс, цяжкасці, якіх, безумоўна, у яе хапае.

"Гора плача, гора скача, гора песенькі пяе", — любіла паўтараць маці маёй знаёмай, якая правяла ў ложку сем апошніх гадоў свайго жыцця. Тыя ж словы пачула праз нейкі час ад мужчыны, якому давялося даглядаць жонку і двух хворых дачок. Дзяўчынкі ў іх нарадзіліся праз год адна за адной. Гэта пасля медыкі скажуць, што інваліднасць – вынік несумяшчальнасці крыві бацькі і маці. А напачатку, каб паставіць сваіх дзяцей на ногі, яны аб'ехалі ўвесь Саюз. У якіх толькі дактароў, знахароў, шаптух не былі, у якія толькі санаторыі не вазілі – безвынікова.

Старэйшай дзяўчынцы было 17, калі захварэла маці. Ішла з работы, упала ў парку, і больш ужо не стала на свае ногі. Больш года яна праляжала ў ложку нерухома. Увесь гэты час муж і бацька цярпліва даглядаў сваіх жанчын. Зайшоўшы ў іх кватэру, наўрад ці можна было здагадацца, што жывуць тут тры інваліды, за якімі даглядае мужчына. І мыў, і прыбіраў, і на прагулку ў горад на выхадных сваіх дачок вывозіў. Пры гэтым вельмі не любіў, калі яго шкадавалі.

Праз нейкі час у сям'і з'явілася памочніца. Старэйшая дачка Наташа, якую бацька часта пакідаў у гарадскім парку на дзве-тры гадзіны адну, знайшла сабе сяброўку. Інтэрнатаўскую дзяўчынку, якая, нягледзячы на здаровыя рукі і ногі, была такая ж няшчасная. Бо не мела на гэтым свеце ні родных, ні сваякоў, ні сапраўдных сяброў.

Адразу яна проста прыходзіла да іх у госці. А пасля заканчэння 9 класа паступіла ў вучылішча і, адмовіўшыся ад ложка ў інтэрнаце, перанесла рэчы ў дом сваіх новых знаёмых. Бачыў бы хто, з якім гонарам катала яна дзяўчынак у інвалідных калясках па вуліцах горада, з якім задавальненнем выбірала для іх абноўкі на рынку і ў магазіне, кожны раз падкрэсліваючы, што яны – яе сёстры.

"Табе што, сваёй бяды мала, што ўзяў у хату сірату? — пыталіся ў гаспадара кватэры. – Жонка ляжачая, дзяўчаты хворыя". "Свая ношка не цяжка", — адказваў звычайна той і спяшаўся па сваіх справах.



**Разважала Марына СЛІЖ.**

■ АЎТА-МОТА

## Парад машын-ветэранаў

**МІНСК. ВІЛЕЙКА. У Мінску 8 мая прайшоў аўтапрабег рарытэтных аўтамабіляў і матацыклаў, прысвечаны Дню Перамогі. Яго наладзіла грамадскае аб'яднанне "Таварыства абароны помнікаў тэхнікі і транспарту "Наша Перамога".**

У акцыі ўдзельнічалі пяць аўтамабіляў (два ГАЗ-М-20 "Победа", польскі "Жук", два ГАЗ-69), мотакаляска Серпухаўскага маторнага завода і матацыкл "Ява".

Аўтапрабег стартаваў з плошчы Перамогі. Яго ўдзельнікі праехалі па маршруце плошча Перамогі – праспект Скарыны – вуліца Леніна – праспект Машэрава – праспект Пушкіна – вуліца Прытыцкага – вёска Кунцаўшчына – стадыён "Дарыда". Ад Вечнага агню на плошчы Перамогі запалілі паходню і ўсклалі кветкі да абеліска "Мінск – горад-герой".

Увечары намеснік старшыні "Нашай Перамогі" **Васіль Цярэшка** на чырвоный "Победе" прыехаў у вёску Забродддзе Вілейскага раёна на традыцыйнае дваццатае святкаванне Дня Перамогі, дзе 9 мая была арганізаваная дэманстрацыя антыкварных аўтамабіляў. "Павінны былі яшчэ прыехаць удзельнікі прабегу на машынах, – сказаў у інтэрв'ю "РГ" арганізатар свята ў Забродддзі мастак **Барыс Цітовіч**. – Але ведаеце колькі старыя машыны паліва ядуць? Грошай не напасешся!"

**Святлана ЦІШКО.**

■ ПАРТРЭТ

## Кветкі ад рэжысёра

**МАЛАДЗЕЧНА. У Мінскім абласным тэатры лялек "Батлейка" 8 гадоў не было галоўнага рэжысёра. Запрашалі спецыялістаў з іншых гарадоў. Спрабавалі сябе ў гэтай якасці і артысты-батлейкаўцы. Нарэшце прыйшоў дасведчаны Мікалай Андрэеў, які адпрацаваў 17 год у Гродзенскім тэатры лялек.**

Хутка будзе 30 год, як Мікалай Андрэеў служыць мастацтву. Аб тэатры лялек марыў яшчэ з дзяцінства. Займаўся ў гуртку. У дзявочых цацкі ён не гуляў, па душы былі паравозікі. На акцёра вывучыўся ў былым Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце. Мікалай лічыць, што адукаваны акцёр – гэта рэжысёр. Таму і пайшоў у Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кіно – адну з мацнейшых рэжысёрскіх школ.

– **Чаму вы абралі менавіта тэатр лялек?**

– Драматычны – гэта сумна. У тэатры лялек выражаеш сябе з дапамогай нежывога прадмета.

– **Якія бачыце перспектывы ў развіцці маладзечанскай "Батлейкі"?**

– Яшчэ раз я ўпэўніўся: тэатр лялек – гэта доля маладых. І разам з імі мне хочацца, каб "Батлейка" наблізілася да статусу сталічнага тэатра. Па магчымасці ўзніму ўзровень і маштаб спектакляў. Абавязкова трэба прыцягнуць публіку.

У Мікалая Андрэева ёсць задумка дзіцячых спектакляў пра Пінокія, Папялушку. Дарэчы, пра яе ёсць пастаноўка ў драматычных тэатрах. Але рэжысёр "Батлейкі" ўпэўнены, што іх работа будзе лепшая. Бо ў тэатры лялек можна стварыць больш цудаў.

– **Чаму пайшлі з Гродзенскага тэатра?**

– З маладзечанцамі я супрацоўнічаў на працягу 5-6 год. Гэты горад бліжэй жа сталіцы, да дома. Гродзенскі тэатр выпрашыў перадаць у спадчыну больш маладому калегу.

**Ірына РАБУШКА.**

### Не зусім аўтабіяграфічная даведка

**Мікалай Андрэеў нарадзіўся ў 1956 годзе ў Мінску. Па знаку задыяка Казярог, год Малпы. У гараскопы верыць на 80%. Любіць гатаваць, хадзіць у лазню, плаваць да зімы ў возеры альбо халоднай рацэ. І дарыць жанчынам жоўтыя кветкі, асабліва любіць хрызантэмы. Лічыць, што мог бы стаць пракурорам, прафесія якога падобна на справу рэжысёра.**




**Галоўны рэжысёр Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» ў Маладзечне Мікалай Андрэеў.**

Фота Ірыны РАБУШКІ.

## Візіт земляка

**МАЛАДЗЕЧНА. Каб зноў пабачыць родныя мясціны і ўпершыню ўбачыць памятны знак беларускаму гісторыку Міколу Ермаловічу, прыехаў 7 мая з Салігорска ў Маладзечна васьмідзесяцігадовы Юрась Дубовік.**

Юрась Дубовік нарадзіўся ў вёсцы Канчаны Маладзечанскага раёна. Падчас другой сусветнай вайны ўдзельнічаў у аднаўленні беларускай школы ў Маладзечне, дамаўляўся пра гэта з мясцовымі акупацыйнымі ўладамі. За што напрыканцы вайны быў асуджаны на 10 гадоў па пункце 1 артыкула 63 Крымінальнага Кодэкса БССР ("Здрада Радзіме").

Падчас візіту ў Маладзечна Юрась Дубовік разам са сваёй жонкай, Аляксандрам Харытонам (адзін з аўтараў "Рэгіянальнай газеты") з Краснага і кандыдатам гістарычных навук Міхасём Чарняўскім з Мінска ўсклаў кветкі ля памятнага знака Міколу Ермаловічу і каля помніка "Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі".

**Святлана ЦІШКО.**

■ SECOND HAND

# Адзенне праз вагі

**МАЛАДЗЕЧНА. Паношаным адзеннем з Еўропы і ЗША гандлююць сёння ў 9 магазінах горада і на рынках прыватныя прадпрымальнікі. Яны афіцыйна зарэгістраваныя, маюць ліцэнзіі і плацяць падаткі. Колькасць людзей, якія займаюцца гэтым без дазволу ва ўласных кватэрах, падлічыць немагчыма.**

"Second hand" у перакладзе з англійскай мовы – другія рукі. Другія – гэта нашыя з вамі. Першыя – рукі грамадзянаў Англіі, Германіі, Галандыі, ЗША. Па дадзеных з Інтэрнэта, у індустрыі second hand у свеце занята каля 70 мільёнаў чалавек. Гэта дазваляе заходнім краінам вырашаць праблемы экалогіі і рэалізоўваць розныя праграмы дапамогі бедным. Перад адраўкай рэчы старанна апрацоўваюць, таму "падхапіць" ад іх якую-небудзь хваробу практычна немагчыма.

### Прадаўцы

Першыя магазіны, якія гандлююць адзеннем з Еўропы і ЗША, з'явіліся ў Маладзечне ў пачатку 90-х. Сёння, па словах уладальніка аднаго з такіх магазінаў, прадпрымальнікі, якія займаюцца гэтым бізнэсам, падзяляюцца на тры катэгорыі. Першыя купляюць тавар у Літве вялікімі партыямі – 5-10 тон, самі аплачваюць транспартныя і мытныя расходы. І рэалізуюць у розніцу на працягу некалькіх месяцаў, перыядычна абнаўляючы асартымент са склада. Другія набываюць адзенне ў аптовых фірмах у Мінску кожны тыдзень. Рэчы упакаваныя ў мяшкі. Таму пра такіх гавораць: "Жывуць з мяшка". Трэція робяць тое ж самае, але рэалізуюць тавар не праз магазін, а праз сваякоў і знаёмых. У іх пастаянныя кліенты. І адзін з пакояў кватэры ператвораны ў нелегальны мінімагазін. Наведаць яго, на слэнгу прадпрымальнікаў, называецца "схадзіць на хату". Атрыманы прыбытак укладаюць у новыя закупкі і г.д. Зразумела, што яны пазбаўленыя ад аплаты арэнды і падатковага цяжару. Займаюцца гэтым пераважна беспрацоўныя. "Хат" не становіцца менш. Аднак з цягам часу ўладальнік такой "хаты" можа ператварыцца ў сумленнага прадпрымальніка.

У Літве можна набыць адзенне з Англіі, Ірландыі, ЗША. Кажуць, што ў гэтых краінах людзі больш шчодрыя, чым, напрыклад, у Германіі. Рэчы трапляюцца іншы раз нават з этыкеткамі. Немцы ж ці то з-за менталітэту, ці па іншых прычынах адзенне заношваюць ледзь не да дзірак. Але ўсё-такі рэчы акуратна складзеныя і ўпакаваныя.

Па якасці і ўзроўні паношанасці тавар падзяляюць на 5 сартоў: "люкс" – эксклюзіўныя рэчы з этыкеткай; "экстра" – новыя, без этыкеткі; 1 сорт – з невялікім тэрмінам носкі, без плямаў; 2 сорт – добра паношаныя і рыззё – рваныя, з плямамі. Мяшок з несартаваным адзеннем называюць "арыгінал". Вага яго – каля 100 кілаграмаў, кошт на аптовым рынку ў Мінску – каля 200 доляраў. Па словах прадпрымальнікаў, змесціва мяшка, звычайна, наступнае: "люкс" – 1-2%, "экстра" – 3-4%, 1 сорт – 10%, 2 сорт – 55%, рыззё – 30%. Адпаведна ўстанаўліваюць і цэны. Закупачны кошт + 30% гандлёвай надбаўкі, а далей – згодна з кан'юнктурай рынку і сумленнем прадаўца. За кілаграм адзення, у залежнасці ад сорту, можна заплаціць ад 3 да 25 тысяч рублёў. Прадаецца амаль усё. Бывае, што рэч вісіць даволі доўга, але ўрэшце знаходзіць свайго гаспадара. Кожны тыдзень праходзяць дні распродажу. У такі дзень можна купіць, напрыклад, мужчынскую кашулю за 100 рублёў. Рыззё, якое прадаць немагчыма, набываюць гарадскія заводы па 700 рублёў за кілаграм.

### Пакупнікі

Кантынгент пакупнікоў даволі разнастайны: ад пенсіянераў да далёка не бедных людзей. Купляюць кашулі, майкі, джынсы на працу, курткі на дачу, дзіцячае адзенне. Сталыя жанчыны з хворымі нагамі купляюць абутак. Ён ужо ношаны і не націрае ногі. Ёсць тыя, для каго наведванне "сэканд хэндаў" – своеасаблівае хобі. Такія людзі ходзяць сюды рэгулярна і доўга перабіраюць адзенне. "Мне здаецца, гэта на ўзроўні псіхалогіі, — кажа адзін з прадаўцоў, — людзі любяць капацца ў чужых рэчах. Пакупнікамі з мабільнымі тэлефонамі і тоўстымі кашалькамі нас таксама нельга здзівіць. Яны былі за мяжой, бачылі, як там апранаюцца. І добра ўяўляюць, колькі каштуе такое адзенне ў фірменных магазінах і буціках у нас. Яны ўмеюць лічыць грошы, разбіраюцца ў якасці і назвах фірмаў-вытворцаў. Адна жанчына, напрыклад, купіла у нас штаны за 3000, а потым расказвала, што бачыла такія самыя ў Мінску, у буціку, за 75 доляраў".

Па-сапраўднаму грэблівых наведвальнікаў нямнога – не больш за 5%. А ўвогуле лічаць, што грэблівасці больш якраз у небагатых людзей. Шмат хто і хацеў бы да нас прыйсці, ды саромеецца".

Ёсць меркаванне, што з чужым адзеннем да чалавека пераходзіць чужая энэргетыка – добрая ці дрэнная. І таму нельга насіць тое, што апранаў нехта раней. Але, з іншага боку, на рынку і ў магазіне рэч таксама можа памераць не адзін пакупнік. Тыя, хто верыць у прыкметы, апырскваюць пакупку святой вадой. Але ў любым выпадку прадаўцы раяць рэч памыць, а абутак працерці воцатам.

**Сяргей ЗЯНЬКО.**




**Мяшок з несартаваным адзеннем – сэканд-хэнд называюць "арыгінал". Вага яго – каля 100 кілаграмаў, кошт на аптовым рынку ў Мінску – каля 200 доляраў. Змесціва мяшка, звычайна, наступнае: "люкс" – 1-2%, "экстра" – 3-4%, 1 сорт – 10%, 2 сорт – 55%, рыззё – 30%.**

■ ЧЫГУНКА

## Новыя маршруты

**МІНСК. З увядзеннем новага раскладу руху пасажырскіх цягнікоў Беларуская чыгунка ўвяла новыя маршруты.**

Ад 15 чэрвеня па 15 верасня цягнік **№486/485 Мінск — Феадосія** будзе курсіраваць праз дзень па няцотных датах.

Маршрут цягніка **Брэст — Свярдлоўск** будзе падоўжаны да Новасібірска. Цяпер цягнік будзе курсіраваць кругла год і мець нумар **114/113**.

2 ліпеня на летні перыяд уводзіцца дадатковы маршрут **№326/325 Мінск – Мурманск**. Гэты цягнік будзе курсіраваць у панядзелкі, чацвяргі і пятніцы.

Уведзены беспересадачны вагон **Гродна – Іркуцк** да цягніка **№128/64-63/127** з перапрычэпкай у Мінску. Цягнік будзе курсіраваць з 30 мая па 12 верасня.

Цягнік **№ 102/101 Мінск – Варна** не будзе рухацца па тэрыторыі Малдовы, а пройдзе праз Баранавічы, Львоў. Час, праведзены ў дарозе, скароціцца на дзве гадзіны.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

■ ТРАНСПАРТ

## Новы нарматыў для мікрааўтобусаў

**МІНСК. Міністэрства транспарту і камунікацый Беларусі збіраецца ўзмацніць жорсткасць патрабавання да мікрааўтобусаў, якія выкарыстоўваюцца для ажыццяўлення рэгулярных перавозак пасажыраў.**

Пра гэта 7 мая на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў міністр транспарту і камунікацый Міхаіл Бараў.

Паводле яго слоў, Мінтранс распрацоўвае новы нарматыў, паводле якога век мікрааўтобусаў, дапушчаных да перавозкі пасажыраў, будзе абмежаваны 10 — 12 гадамі з моманту выпуску. На думку Баравога, новы нарматыў можа быць уведзены да канца гэтага года.

Як патлумачыў БелаПАН начальнік Транспартнай інспекцыі Мінтранса **Сяргей Даніловіч**, размова ідзе пра транспартныя сродкі, якія выкарыстоўваюцца на экспрэс-маршрутах на перавозцы пасажыраў у горадзе, а таксама на прыгарадных і міжгародніх напрамках.

Як лічыць кіраўнік Транспартнай інспекцыі, і для прыватных перавозчыкаў новыя патрабаванні не павінны стаць сур'ёзнай праблемай. На думку Даніловіча, на аб'ёмах выкананых перавозак запланаваныя новаўвядзенні негатыўна адбіцца не павінны, бо сёння асноўная маса парка мікрааўтобусаў, што выкарыстоўваюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі, мае ўзрост да 7 — 10 гадоў. «Сёння пытанне заключаецца ўжо не ў тым, чым везці, а ў якасці ажыццяўлення перавозак», — падкрэсліў С.Даніловіч.

**Паводле БелаПАН.**

## Стандарты Еўропы

**МІНСК. Сёлета ў Беларусі намечана распрацоўка не менш чым 80 дзяржаўных стандартаў, узаемазвязаных з тэхнічнымі рэгламентамі і дырэктывамі Еўрасаюза.**

Стандарты тычацца машынабудаўнічай і электратэхнічнай прадукцыі. Акрамя таго, будзе распрацаваны стандарт на фанеру і пліты з драўніны для будаўніцтва. Гэта будзе прамое прымяненне еўрапейскага стандарту на гэтую прадукцыю.

У ліпені ўступаюць у сілу новыя законы Беларусі ў галіне тэхнічнага нарміравання, стандартызацыі і ацэнкі адпаведнасці.

**Паводле БелаПАН.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 6.5 руб. | 13.5 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2155,00 | 2156,00 |
| Еўра | 2615,85 | 2561,65 |
| Злоты | 550,80 | 538,09 |
| Літ | 757,54 | 741,95 |
| Расійскі рубель | 74,57 | 74,19 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2155/2170 | 2155/2170 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 5.5 | 12.5 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13900 | 13900 |
| Сасіскі, 1 кг | 5020 | 5020 |
| Селядзец, 1 кг | 2500 | 2500 |
| Рыс, 0,9 кг | 1100 | 1100 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1500 | 1500 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1350 | 1350 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 530 | 530 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2000 | 2000 |
| Шпроты, бляшанка 160 г. | 1200 | 1200 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 950 | 950 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 500 | 480 |
| Морква, 1 кг | 800 | 400 |
| Лімоны, 1 кг | 2900 | 3000 |
| Апельсіны, 1 кг | 2100 | 2100 |
| Яблыкі, 1 кг | 1100 | 1300 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 1000 | 900 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 2500 | 2400 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1800 | 1800 |
| Сала, 1 кг | 3000 | 3200 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 1800 |

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою.
Амбулаторны прыём (ананімна).
Маладзечна, вул.Чкалава, 5 (басейн)
Тэл. 36136, (8-029) 7743373.
Ліц МЗ РБ №2666 АМ ад 24.04.2008

ПАК
ПЕРВАЯ АККУМУЛЯТОРНАЯ КОМПАНИЯ
предлагаем оптом и в розницу:
– аккумуляторы
– масла автомобильные 15W40, М10Г2к
– масла трансмиссионные
– масла индустриальные И-20, -40, МГЕ, АУ, КС, М14В
Тел. Молодечно 63063
Сморгонь 21562
Ошмяны 20461

НАРКАЛОГІЯ
Перарыванне запою (кругласутачна),
Комплекснае лячэнне алкагалізму
Індывідуальны прыём па папярэднім запісе.
Маладзечна, вул. Вольная, 12,
тэл.: 37275, 50974, (8-029) 6337275.
Ліц. МАЗ РБ №954 ад 8.06.1999-8.06.2004 г.

Аўкцыёны
па продажы драўніны на карані і ў нарыхтаваным выглядзе праводзіць Астравецкі лясгас. На таргі, якія адбудуцца 25 мая, 8 і 24 чэрвеня, выстаўляюцца даступныя дзялянкі і лесаматэрыялы хвойных і мяккалісцевых парод.
Тэл.: (01591) 21277, 21377, 39233.

Одесская область
Б/о «Бриз», «Жемчужина»
Крым
от 135 у.а.
Трэйдтур
Тел.: (017) 2633135, 2649350, 2606171, без выходных.
Лиц. №40 выд. Мин. спорта и туризма РБ от 19.12.2000/2005 г.

ВЫ ГОТОВЫ К ТЕХОСМОТРУ?
"ЗАПРЕЩАЕТСЯ эксплуатация транспортных средств, если суммарный люфт в рулевом управлении превышает следующие значения:
для автобусов - 20 градусов
для грузовых автомобилей - 25 градусов"
(Приложение 5, Глава 2, Правила дорожного движения)
шины и аккумуляторы для любой техники
запасные части для ЗИЛ, ГАЗ, УАЗ, МТЗ
Тел. в Молодечно:
(01773) 6-42-84, 3-61-14
Адрес: пер. Банный, 10 (ОДО "Агрошина")
ШИНТОРГ Власть над дорогой!

■ КАНТАКТЫ

# Кнігі для «Амерыканскага кутка»

**МАЛАДЗЕЧНА. Чыстым горадам, з цікавым патэнцыялам назваў Пасол Злучаных Штатаў Амерыкі Джордж Крол Маладзечна, адказваючы на пытанне карэспандэнта «Рэгіянальнай газеты» аб магчымых перспектывах эканамічнага супрацоўніцтва паміж Маладзечнам і ЗША.**

10 мая Пасол ЗША ў Беларусі пан Джордж Крол наведаў Маладзечна, каб папоўніць гарадскую бібліятэку імя Максіма Багдановіча зборам кніг, тэлевізарам, відэамагнітафонам, калекцыяй відэакасет і кампакт-дыскаў. Дар амерыканцаў Маладзечну каштуе больш за 20 тысяч долараў і ўручаны ў межах праекта "Амерыканскіх куткоў" у Беларусі. Усяго ў нашай краіне, па словах пасла, амерыканцы на гэту праграму выдаткоўваюць прыкладна 78 тысяч долараў.

"Амерыканскі куток" дзейнічае ў Маладзечне паўгода. За гэты час, па словах дырэктара бібліятэкі Ніны Арцышэвіч, маладзечанцы наведалі куток больш за 600 разоў, выдадзена ў карыстанне больш за 850 кніг. Значнае павелічэнне кніжнага фонду кутка і набыццё тэлевідэатэхнікі, на думку работнікаў бібліятэкі, прыцягне яшчэ большую ўвагу да амерыканскай культуры.

Праграма "Амерыканскіх куткоў" – другая па ліку з тых, што рэалізуюцца пры дапамозе амерыканцаў у бібліятэцы імя Максіма Багдановіча. Першая – бясплатны доступ у Інтэрнэт. Тут ужо некалькі гадоў кожны дзень працуюць шэсць камп'ютэраў з выхадам у сусветнае інфармацыйнае павуцінне.

– За 15 апошніх гадоў, – сказаў на сустрэчы з Джорджам Кролам у бібліятэцы імя Максіма Багдановіча першы намеснік старшыні Маладзечанскага гарвыканкама **Яфім Ідэльчык**, – у Маладзечне пабывалі ўсе амерыканскія паслы. І ўсе гэтыя візіты былі не прадстаўнічымі, а па–сапраўднаму дзелавымі. Гараджане ўдзячны за істотную дапамогу.

Маладзечна сярод некалькіх іншых гарадоў Беларусі выбранае амерыканцамі для рэалізацыі праграмы "Амерыканскіх куткоў" з–за таго, што бібліятэка Маладзечна – адна з лепшых у Беларусі.

Джордж Крол быў у Маладзечне ў другі раз. Першы раз – каля 10 гадоў таму, калі працаваў у Беларусі намеснікам пасла Джорджа Суорца, а галавой выканаўчай улады ў горадзе – Генадзь Карпенка. "Горад толькі папрыгажэў", – адказаў на пытанне аб пераменах маладзечанскі пасол.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**




**Загадчыца аддзела замежнай літаратуры Ларыса Берташ (злева) дэманструе Паслу ЗША Джорджу Кролу свой аддзел. Акрамя іншай літаратуры і тэхнікі, 10 мая Джордж Крол падарыў маладзечанскай бібліятэцы Энцыклапедыю Амерыкі ў 30 тамах і зборнік адрасоў паштовых аддзяленняў Амерыкі на кампакт-дысках.**

Фота Святланы ЦІШКО.




**Джордж Крол прыехаў у Маладзечна ў другі раз. Першы раз – каля 10 гадоў таму, калі працаваў у Беларусі намеснікам пасла Джорджа Суорца, а галавой выканаўчай улады ў горадзе – Генадзь Карпенка. "Горад папрыгажэў", – адказаў на пытанне аб пераменах пасол.**

Фота Святланы ЦІШКО.



**Першы намеснік старшыні гарвыканкама Яфім Ідэльчык падараваў Джорджу Кролу кнігі аб Беларусі і Маладзечне, керамічны герб горада і вялікі піўны куфаль. На што хтосьці з прысутных кінуў рэпліку: – Каб пакаштавалі нашага смачнага піва.**

Фота Святланы ЦІШКО.

■ ДАВЕДКА

## Джордж Крол

Пасол **Джордж Альберт Крол** пачаў дыпламатычную службу ў 1982 годзе і працаваў на розных пасадах у Польшчы, Індыі, Савецкім Саюзе, Расіі, Украіне. Займаў пасады намесніка Пасла і Часовага паверанага ў справах ЗША ў Беларусі (1993-1995 гг.). Валодае рускай і польскай мовамі. Пасол Джордж Крол нарадзіўся ў штаце Нью-Джэрсі. Ён – малодшы з трох сыноў у сям'і Кролаў з горада Манчэстэр, Нью-Джэрсі. Атрымаў ступень бакалаўра і магістра гісторыі; ступень бакалаўра і магістра філасофіі, палітыкі і эканомікі. Нежанаты. Захапляецца гісторыяй, турызмам і, пры магчымасці, верхавой яздой.

http://minsk.usembassy.gov

**Працягваем знаёміць нашых чытачоў з фрагментамі кнігі ўраджэнак Будслава Анелі Катковіч і Веранікі Катковіч-Клентак «Успаміны». Нядаўна ў Польшчы выйшаў пераклад на польскую мову гэтай кнігі, які завецца «Ад Будслава да ГУЛАГа». Захоўваем правапіс арыгіналу. У гэтым нумары сваімі ўспамінамі дзеліцца Анеля Катковіч. Успаміны Веранікі Катковіч-Клентак будуць друкавацца пасля ўспамінаў Анелі Катковіч. Поўны тэкст кнігі можна знайсці на сайце http://kamunikat.net.iig.pl.**




# Ад Будслава да ГУЛАГа

Часам сьледавацель прабаваў уключыць радыё, спачатку ціха, пазьней гучней, гледзячы на мяне, як я зарэагую. Пачуўшы музыку, я адразу пачынала плакаць. Тады ён выключаў радыёпрыёмнік.

Аднойчы даведалася я, што ў Менску ёсьць Вэра і ўжо ў турме нарадзіла сына. А тут пасьля года закончылі маё сьледзтва й перавялі ў іншую турму, якую называлі гарадзкой. Паклікалі мяне на нейкі допыс. Ідучы праз падворак, убачыла я Вэру зь дзіцём на руках. Яна мяне ня бачыла. Калі я крыкнула „Вэра!" й мімаволі зрабіла рух, як бы хацела да яе падбегчы, яе хутка павярнулі назад і замкнулі ў будынку. Яна толькі пасьпела падняць уверх высока сына й паказаць мне яго.

Сядзела я цяпер у прыбудоўцы да гарадзкой турмы. Былі ў ёй толькі палітычныя вязьні. У маленькай камэры стаялі чатыры ложкі, два на зямлі, а два над імі. На прагулку выводзілі нас у крыху большую камэру бяз столі. Мела яна чатыры сьцяны й краты над сабой. Туды нас упускалі без канвою, і мы якіх хвілін 20 хадзілі адна за адной.

Не сказала я яшчэ аб тым, што раней, чым перавялі мяне ў новую турму, далі мне прачытаць мае пратаколы, сшытыя ў тоўстую кнігу, й допросы на мяне ў розных людзей. Тады я даведалася, што Езавітаў быў савецкім вязьнем, бо пры маёй справе быў яго пратакол пра Беларускі Кангрэс у 1944 годзе. Быў таксама пратакол Усевалада Караля, Байкова й іншых. Ніхто нічога кепскага пра мяне не сказаў. Дапрасілі ў суме сто асоб. Байкоў крыху накрукціў, бо сказаў, што маіх бацькоў у 1941 годзе раскулачылі. А мае бацькі ад 1929 года не жылі ж на гэтым сьвеце.

Цяпер чакала я прысуду. Маю справу пераслалі ў Маскву для разгляду „Асобым Совещанием".

Агледзелася я, што ў будынку напроціў на 3 ці 4 паверсе сядзіць Вэра й часта паглядае ў вакно. І так пачалі мы адна другую штодня па пару хвілін адалёк бачыць.

А ў мяне з кожным днём насільвалася галаўны боль. Нарэшце забралі мяне да лекара й паклалі ў шпіталь. Будучы ў ім, магла я Вэру бачыць яшчэ часьцей. Вось у том часе, калі я прабывала ў шпіталі, прыйшоў прыгавор з Масквы.

Асудзілі мяне й Вэру на 10 гадоў „исправительного лагеря".

Мушу сказаць, што ў часе сьледзтва следавацель заўсёды страшыў мяне расстрэлам. А я думала сабе: „Ад іх можна ўсяго спадзявацца". І часта ў думках бачыла, як вядуць мяне расстрэльваць, як я падаю ад кулі, як маё жыццё канчаецца, абрываецца. За што, за чыю віну?!

Аднойчы пазвалі мяне й пасадзілі ў чорны воран. Уваходзячы ў яго, я заўважыла, што ў ім знаходзіцца й Вэра з сынам Славікам на руках. Паехалі мы. Везьлі нас доўга, доўга ня кажучы, куды. Я была перакананая, што на расстрэл. Прывезьлі нас у суд як сьведкаў па справе Янкі Жамойціна. На гэтай расправе я спаткалася з Вэрай і пабачыла нарэшце блізка Славіка. Трымала яго нават на руках. Было тады яму шэсьць месяцаў. Такі слаўны хлопчык!

Янку судзілі й далі 25 гадоў лагера.

Мяне з Вэрай судзілі завочна. Не прысутнічалі мы на сваім судзе, не бараніў нас ніякі адвакат, не маглі сказаць ні аднаго слова ў сваё абароне. Ды якая была тады розьніца, засудзілі каго на 10 ці 25 гадоў лагера! Пакуль жыў Сталін, ніхто з палітычных вязьняў з такога лагера дамоў не вяртаўся! Большасьць памірала, не адбыўшы кары, а тыя, якія перажывалі, ішлі на „вольное поселение". Іх выпускалі з лагера, не дазваляючы аддаляцца далей як 100 — 200 км. Пачынай жыць, як хочаш. Выходзячы з лагера, кожны быў інвалідам, няздольным да працы, й, адсядзеўшы тэрмін, трэба было шукаць сродкаў да жыцьця. Як жа дрыжэлі заключаныя на думку аб прыбліжаючымся заканчэньні кары! У лагеры мелі хоць дзе прылегчы й міску аўсянкі, а там, па-за лагерам, што каго чакала? Так выпушчаная на волю адна полька, Гэнрыка Гроссэк са Львова, якая была зусім няздольная да працы, села пад плотам і не пайшла нікуды. Выпадкова нехта з вольных ёю заапекаваўся. Адправілі яе ў Польшчу. На бацькаўшчыне яна хутка памерла.

### Этап

Забралі мяне на этап разам з Вэрай і Славікам. Не далі для малога ані чыстых пялюшак, ані харчоў адпаведных. Не дазволілі паведаміць родных аб нашым лёсе. Ніхто да нас ніколі не прыехаў, ніхто не перадаў ніякай перадачы, бо ніхто пра нас ня ведаў.

Завялі нас у цягнік з вагонамі, прызначанымі для перавозу заключаных. Народу было многа.

**Анеля КАТКОВІЧ.**

Працяг будзе.

■ 31 МАЯ – СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ БЕЗ ТЫТУНЮ

# Цыгарэта проста забівае

**Цыгарэта забівае кожнага дзесятага чалавека ў свеце. Калі структура курэння захаваецца, ад тытуню могуць загінуць 500 мільёнаў людзей. Чакаецца, што да 2030 года ён стане асноўнай прычынай смерці ва ўсім свеце, забіраючы кожны год 10 мільёнаў людзей.**

38% мужчын і 23% жанчын у Еўропе з'яўляюцца курыльшчыкамі. Сітуацыя ў нашай краіне яшчэ больш складаная. Сярод беларусаў, не зважаючы на тое, што тытунёвы дым утрымлівае больш за 400 хімічных рэчываў, курыць 64,1% мужчын і 19,7% жанчын. Усё часцей на вуліцах можна бачыць з цыгарэтай у руках падлеткаў, дзяцей.

Аддзелам сацыяльна-гігіенічнага маніторынгу, адзнакі рызыкі і грамадскага здароўя раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі праведзена апытанне маладзечанцаў па праблеме распаўсюджання табакакурэння. Прынялі ўдзел у ім 96 чалавек, у тым ліку 49 жанчын і 47 мужчын. У выніку апытання стала вядома, што першую цыгарэту дзеці звычайна выкурваюць ва ўзросце ад 6 да 15 гадоў, прычына – цікаўнасць альбо ўздзеянне сяброў. Большасць апытаных згодна з тым, што курэнне – адна з прычын раку лёгкіх. Тым не менш, 43 чалавекі так і прадаўжаюць курыць, курылі, але кінулі 20 чалавек, ніколі не курылі 33 чалавекі (24 жанчыны і 9 мужчын).

У канцы апытання было прапанавана выказаць свае адносіны да нарматыўнага акта, ў якім бы гаварылася аб забароне курэння ў грамадскіх месцах. Цалкам яго падтрымалі 58 чалавек, часткова – 32, наогул не падтрымалі – 6. За абмежаванне продажу тытуню непаўналетнім "прагаласавалі" 81 чалавек, часткова падтрымалі б такі дакумент 9 чалавек, не падтрымалі – 6. Супраць рэкламы тытуню выступілі 59 апытаных, 46 падтрымалі б часткова, 28 апытаных супраць патрабавання забараніць рэкламу наогул.

Існуе шмат спосабаў лячэння ад курэння. Аднак рашаючым момантам, звязаным з пераадоленнем звычкі, з'яўляецца ступень жадання чалавека кінуць курыць. Той, хто змагаецца з курэннем, павінен памятаць аб "небяспечных перыядах", калі цяга да тытуню асабліва вялікая. Менавіта ў гэты час галоўнае вытрымаць і не ўзяць у рукі цыгарэту. Для чаго трэба больш працаваць фізічна, быць на свежым паветры, займацца спортам, выключыць на 2-3 тыдні з меню чай, каву, салёныя прадукты, а таксама адмовіцца ад алкаголю. Ешце больш натуральных прадуктаў, піце сокі, мінеральную ваду, не пераядайце. Пасля таго, як кінеце курыць, не датыкайцеся больш да цыгарэты. Адна зацяжка можа перакрэсліць усе вашы намаганні.

**Галіна ШУПЕНЬКА, доктар-валеолаг.**



**Сусветная арганізацыя аховы здароўя ў 1988 годзе абвясціла 31 мая Сусветным днём без тытуню. Перад сусветнай супольнасцю стаіць задача – дамагчыся, каб у XXI стагоддзі праблема курэння тытуню знікла.**

Фота ByMedia.Net


**Подари здоровье себе и своим близким!**

# САМОЗДРАВ

Не имеющая аналогов по эффективности технология естественного восстановления здоровья

*«Природные силы внутри нас — истинные врачеватели болезней»*

*Гиппократ*

## Почему кружится голова, болит сердце и «скачет» давление?

Сужение микрососудов головного мозга – главная причина нарушения мозгового кровообращения. Оно порождает такие недуги, как частое головокружение, бессонницу, мигрень, «шум в голове», ослабление памяти.

Спазмированные микрососуды сердца порождают ИБС (ишемическую болезнь сердца) – клетки сердечной мышцы уже не получают необходимого им для нормальной работы количества кислорода. Так возникают перебои сердечного ритма (аритмия), тахикардия, гипотония...

Уменьшение просвета микрососудов внутренних органов увеличивает сопротивление сосудов. Из-за этого поднимается артериальное давление, (гипертония), увеличивается нагрузка на сердце, появляются боли за грудиной (стенокардия). На этом фоне, обычно вследствие стрессов, вызывающих дополнительный спазм микрососудов, случаются инфаркты миокарда и мозговые инсульты.

Перечисленные недуги не могут возникать и действительно не возникают в молодом возрасте, поскольку у молодых людей нормальный или еще близкий к нормальному тонус микрососудов.

Пожилые же люди вынуждены регулярно принимать сосудорасширяющие препараты, чтобы снизить давление, снять боли, другие симптомы болезни.

Сегодня нет ни одной чисто медицинской технологии, позволяющей восстановить нормальный тонус микрососудов, или хотя бы немного увеличить их просвет на достаточно долгое время.

## Что делать?

Восстановление способности организма поддерживать оптимальную концентрацию углекислого газа в крови – необходимое условие и единственный способ избавления как от многих болезней, так и от разрушающих организм лекарств.

Чтобы избавиться от необходимости ежедневного приема препаратов, нужно одно – вернуть сосуды в их естественное, но утерянное с возрастом, – нормально расширенное состояние.

Именно это за 4-10 месяцев надежно достигается очень простой, по 20 минут в день, домашней процедурой с обычным ровным дыханием на комплексе **«САМОЗДРАВ» (Капникатор)**, созданным академиком российской Академии медицинских наук А.А. Ненашевым и его самарскими коллегами. После этого сосуды не нуждаются в расширении таблетками, постоянно обеспечивают нормальное давление и кровоснабжение всех органов, в т.ч. сердца и мозга, что и делает инфаркт и инсульт невозможными.

Оптимальная концентрация углекислого газа в крови способствует восстановлению сна и работы кишечника, снятию головных болей, болей в позвоночнике и суставах, отступлению хронического бронхита и приступов астмы, нормализации содержания сахара в крови...

Количество углекислого газа в крови измеряется **капнометром**, входящим в комплекс **«САМОЗДРАВ»**, что позволяет оценивать результаты занятий.

За свои уникальные возможности **«САМОЗДРАВ»** по достоинству оценен серебряной и двумя золотыми медалями Всемирных форумов изобретений в Брюсселе (1999 г.), Париже (2000 г) и Москве (2001 г).

## Дыхательный комплекс «САМОЗДРАВ»:

– необходим всем, кто хотел бы уберечь свой организм от многих хронических недугов.

**«САМОЗДРАВ»** – средство реальной профилактики болезней путем устранения главной их причины на стадии ее возникновения.

– необходим всем, страдающим хроническими заболеваниями. Без восстановления нормального кровоснабжения невозможно рассчитывать ни на облегчение их течения, ни тем более на избавление от болезней.

Уд. Гигиен.рег. Минздрава РБ №08-33-р.11619 от 7 апреля 2004 г.

С 1998 года у людей появился выбор: или постепенное возвращение утерянного здоровья за несколько месяцев, или жизнь на таблетках. За пять лет правильный выбор сделали более полумиллиона человек в России и за ее пределами, значительно улучшивших свое здоровье с помощью комплекса **«САМОЗДРАВ»**.

## Мнение специалиста

**Н.А.АГАДЖАНЯН, Профессор, доктор медицинских наук, действительный член российской академии, международной академии астронавтики, нью-йоркской академии наук.**



Огромную опасность для здоровья и самой жизни миллионов людей представляет низкое содержание в организме жизненно важного вещества – углекислого газа. При дефиците углекислого газа спастические явления (спазмы) имеют место во всем организме, порождая пагубные последствия: гипертонию, ишемическую болезнь сердца, запоры, ожирение, сахарный диабет второго типа, бронхиальную астму, язву желудка, остеохондроз и т.д. Препараты лишь на время снимают спазм, не устраняя его первопричину.

Комплекс **«САМОЗДРАВ»** предназначен для восстановления нормального постоянного содержания углекислого газа в артериальной крови. В результате этого спастические явления автоматически устраняются.

Я занимаюсь научными и практическими проблемами в этой области не одно десятилетие. Накопленные в этой сфере результаты научных исследований и прикладных разработок, в частности уже десятки лет, применяемые в космической биологии, свидетельствуют о том, что методика, используемая в комплексе **«САМОЗДРАВ»**, научно обоснована и перспективна.

Комплекс **«САМОЗДРАВ»** несомненно, является выдающимся достижением российской научной школы физиологии человека. Создан доступный инструмент, который уже помог сотням тысяч, а в перспективе поможет миллионам людей, страдающих «болезнями цивилизации».




## Внимание!

**Приглашаем вас на бесплатную лекцию, которая состоится 24 мая** (понедельник) в Молодечно **с 17.30 до 18.30** в **Доме культуры железнодорожников** (ул. Либаво-Роменская, 71).

Здесь вы можете ознакомиться с комплексом **«САМОЗДРАВ»** и получить бесплатную консультацию врача-специалиста.

Стоимость комплекса «САМОЗДРАВ» - 28000 бел. руб.

Стоимость в экспертном исполнении – 54000 бел. руб.

Официальный представитель завода-изготовителя в РБ – ООО «Виноград», тел. (017) 2277121.


■ КАЛІ ЕЖА – ЛЕКІ

## Лечымся капустай

**Яшчэ Гіпакрат, Арыстоцель, Піфагор і многія іншыя вялікія людзі старажытнасці запэўнівалі сваіх сучаснікаў у карысці капусты. Нашы продкі таксама цанілі гэту гародніну. У рускіх народных лячэбніках прыведзена мноства рэцэптаў прымянення капусты.**

Гэта гародніна ўтрымлівае мноства карысных рэчываў: цукар, клятчатку, цэлы комплекс мікраэлементаў, арганічныя кіслоты, ферменты. А вітаміну С у белакачаннай капусце столькі ж, колькі ў апельсінах ці лімонах, ды яшчэ В1, В2, Р і інш.

Устаноўлена, што капуста садзейнічае выдаленню халестэрыну, солей цяжкіх металаў, спрыяльна ўздзейнічае на нервовую сістэму, абмен рэчываў, дапамагае пры цукровым дыябеце. Капусту ўключаюць у лячэбную дыету пры атэрасклерозе, падагры, атлусценні, гастрытах.

Солі калію, якіх багата ў гэтай гародніне, садзейнічаюць вывядзенню з арганізма вадкасці, паляпшаюць работу сэрца, таму яна павінна стаць неад'емнай часткай рацыёну тых, хто пакутуе ад захворванняў сэрца, нырак, парушэнняў водна-салявога абмену.

Свежы сок капусты карысны пры язвеннай хваробе страўніка і дванаццаціперснай кішкі, пры гастрытах з паніжанай кіслотнасцю, калітах, халецыстыце. Падрыхтаваны загадзя сок можна захоўваць у халадзільніку ў шкляным або эмаліраваным посудзе, але не больш за 2 сутак, інакш у ім разбураюцца вітаміны. Для прыгатавання 1 л соку трэба 2 кілаграмы капусты.

Свежы сок капусты з цукрам змякчае кашаль, з'яўляецца супрацьзапаленчым сродкам. Пры захворванні горла карысна паласкаць яго сокам капусты, разведзеным цёплай вадой. Зваранocc ўlі малацэ і змешаныя з вотруб'ем лісты капусты выкарыстоўваюцца ў выглядзе прыпарак пры залатусе.

Здробненыя лісты, змешаныя з бялком яйка, рэкамендуецца прыкладваць да гнойных ран, на апечаныя ўчасткі цела.

**Матэрыял да друку падрыхтавала Марына СЛІЖ.**

■ НАВІНЫ

## На дапамогу – праваахоўныя органы

**Гомель, 10 мая. Санітарныя службы Гомельскай вобласці звярнуліся ў праваахоўныя органы з просьбай узмацніць кантроль за гандлем смаржкамі і страчкамі.**

Падставай для гэтага сталі звароты грамадзян у абласны клінічны цэнтр гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. Як паведаміў БелаПАН галоўны санітарны доктар Гомельскай вобласці Віктар Нараленкаў, статыстыка зваротаў паказала, што ў двух выпадках пацярпелыя набылі грыбы ў неабсталяваных для гандлю месцах.

З пачатку мая ў Гомельскай вобласці грыбамі атруціліся 15 чалавек, два з іх памерлі; амаль траціна пацярпелых — дзеці.

**Алена ПАСКАННАЯ, БелаПАН.**

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Самадапамога інвалідаў

**СМАРГОНЬ. У Смаргоні працуе пральня для інвалідаў па зроку. Каля 600 невідушчых атрымліваюць сацыяльную і медыцынскую дапамогу ў рамках праекта Смаргонскага філіяла Беларускага таварыства інвалідаў па зроку.**

Людзі народжаны для перамог, а не для паразаў – менавіта гэтае выказванне амерыканскага пісьменніка **Генры Тора** кожны раз прыходзіць мне ў думкі, калі з сутыкаюся з людзьмі з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі.

Я гутару са старшынёй Смаргонскага аддзялення Беларускага таварыства інвалідаў па зроку (БелТІЗ) **Галінай Шульжыцкай**. Ужо на працягу некалькіх месяцаў у Смаргоні рэалізуецца праект па арганізацыі груп самадапамогі для пажылых і інвалідаў. Фінансавую падтрымку праекту аказвае Альянс партнёрства Каунтэрпарт. "Мы не ставім сабе мэтай зарабіць якія–небудзь грошы, – гаворыць Галіна. – У першую чаргу нам хочацца стварыць і навучыць спецыяльную групу добраахвотнікаў, сярод якіх былі б як інваліды па зроку, так і людзі сталага ўзросту. Далей прадбачылася, што валанцёры будуць самі аказваць дапамогу дома людзям з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі."

І задуманае рэалізоўваецца. Усе паслугі, якія атрымліваюць інваліды і пажылыя ў рамках гэтага праекта, выконваюцца бясплатна. 14 навучаных добраахвотнікаў (сябры Таварыства інвалідаў па зроку, былыя медработнікі і проста актыўныя грамадзяне) на чале з былым доктарам **Алай Шчуцкай** наведваюць каля 200 інвалідаў і пажылых у іх дамах, аказваюць ім элементарную медыцынскую дапамогу. Каму перавязку зробяць, каму памераюць ціск, каму ў аптэку за лекамі сходзяць. Усяго ж у рамках праекта смаргонцы спадзяюцца дапамагчы 600 чалавекам.


Марыя Тузава шые пасцельную бялізну для невідушчых. Фота Ірыны ЛУПНОЙ.

Вялікай радасцю для слабавідушчых смаргонцаў стала набыццё дзвюх новых пральных аўтаматычных машын. Сёння ў цэнтры сацыяльнага абслугоўвання "Цёплы дом" размясцілася сапраўдная пральня. У пакоі стаяць некалькі кошыкаў з бялізнай.

"Працы ў мяне шмат, – гаворыць **Ганна Кабак**, якая назірае за мыццём. – Машыны працуюць беспярапынна, бо графік заказаў на мыццё перапоўнены. Некаторыя інваліды і пажылыя самі могуць прыйсці ў пральню. Астатніх жа пастаянна наведваюць сацыяльныя работнікі, якія прыносяць бялізну нам, а пасля чыстай адносяць назад."

У невялікім пакойчыку "Цёплага дома", дзе і прапісаны Смаргонскі філіял БелТІЗа, я пазнаёмілася з **Марыяй Тузавай**. У рамках праекта яна шые пасцельную бялізну для тых інвалідаў і пажылых, якія маюць вострую патрэбу. Рамантуе адзенне, робіць сувеніры.

З Галінай Шульжыцкай мы пагаварылі не толькі аб радасцях, а і аб праблемах, з якімі сутыкаюцца ў сваім жыцці інваліды. Чым жывуць людзі, пазбаўленыя магчымасці бачыць навакольны свет? Большасць з іх – жанчыны. Ёсць сярод невідушчых і шмат маладых. Самая вялікая праблема для іх – працаўладкаванне. Ужо даўно вядома, што кіраўнікі многіх арганізацый і прадпрыемстваў не спяшаюцца ўзяць у штат невідушчых і тых, хто дрэнна бачыць. Хаця нярэдка яны ўпраўляюцца са сваімі прафесійнымі абавязкамі лепш, чым іхнія здаровыя калегі.

**ДАВЕДКА. Грамадскае аб'яднанне "Беларускае таварыства інвалідаў па зроку" (БелТІЗ) – адна са старэйшых грамадскіх арганізацый у Беларусі. У 2004 годзе БелТІЗ адзначае свой 80–гадовы юбілей. Смаргонскі філіял арганізацыі вядзе сваю гісторыю з 1947 года. Дзейнасць БелТІЗ накіраваная на прыцягненне невідушчых інвалідаў у працоўную дзейнасць і сацыяльна–працоўную і медыцынскую рэабілітацыю. Цяпер у шэрагах БелТІЗ налічваецца каля 20 тысяч інвалідаў. Сябрамі Смаргонскага філіяла БелТІЗа з'яўляюцца 207 невідушчых. БелТІЗ мае 17 вытворчых прадпрыемстваў, на якіх працуе каля 4 тысяч невідушчых.**

На працягу апошніх 3 гадоў у Смаргоні працуе пункт надомнай працы, дзе працаўладкоўваецца большасць інвалідаў па зроку. Яны займаюцца тым, што збіраюць кантактныя вузлы для электрапрыбораў, блокі запальвання, патроны да асвятляльных прыбораў. Аднак велічыня заробку за карпатлівую працу складае не больш за 50–70 тысяч рублёў. Дадайце да гэтага пенсію ў 80 тысяч рублёў. Вось на гэтыя грошы і жывуць інваліды. Бюджэт Смаргонскай арганізацыі БелТІЗ папаўняецца толькі з добраахвотных узносаў яе сяброў. Аб спонсарскай дапамозе ў гэтай арганізацыі амаль забыліся. Аднак інваліды не адчайваюцца. Аб'яднаныя сваёй бядой, яны навучыліся жыць, працаваць, радавацца жыццю і перамагаць.

Ірына ЛУГІНА.

■ ПАРТРЭТ

# Маці і трэнер

**АШМЯНЫ. Праз рукі і сэрца трэнера па гандболе Веры Мальцавай прайшоў шмат хто з ашмянцаў. Яна паспела выгадаваць дачку і двух сыноў. Разам з тым стала другой маці для сваіх выхаванцаў-спартсменаў, што лічыць галоўнай якасцю трэнера. І заўсёды марыла вывучыцца і працаваць суддзёй, абавязкова справядлівым.**

У дзяцінстве і юнацтве Вера выступала на спаборніцтвах па шматлікіх відах спорту. Урэшце, гэтаму "рамяству" яна прысвяціла больш за 30 год.

— **А што для вас спорт?** – пытаюся ў апантанай сваёй справай жанчыны.

— Гэта жыццё. Я не кінула спорт, нават калі ў мяне нараджаліся дзеці. Цяпер унучку ў спартыўнае жыццё ўцягваю. Удакладню, што я галасую за разумны спорт, які дае здароўе.


Трэнер па гандболе дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы ў Ашмянах Вера Мальцава. Фота Ірыны РАБУШКІ.

Вера Мальцава лічыць, што спартсменамі нараджаюцца. Хто ж бярэ спорт працай, значна больш цэніць перамогу. Ашмянка неаднойчы перамагала ў спаборніцтвах розных узроўняў. І ўсё ж такі прыпынілася на дзіцячым спорце. У далёкія савецкія часы віды спорту дзялілі, калі можна так сказаць, па раёнах. Ашмяншчыне выпаў гандбол.

Так выпускніца Цэнтральнага ордэна Леніна інстытута фізічнай культуры, што ў Маскве, трапіла на пасаду трэнера ў Ашмянскую дзіцяча-юнацкую спартыўную школу. Яна дабілася ўзаемапаразумення з выхаванцамі. Дзеці дзеляцца аб набалелым, раяцца і сакрэтнічаюць з ёй.

"Люблю пабалбатаць з дзяўчатамі", — з усмешкай кажа жанчына. Вера Мальцава лічыць, што дзіцячую каманду павінна трэніраваць жанчына. Калі трэнер мужчына, усё адно павінен для дзяцей стаць маці.

Сама ж Вера пачала займацца гандболам даволі позна, у 13 гадоў. Мара вывучыцца на справядлівага суддзю яе не пакідала ніколі. Бо нячэснае суддзейства мае месца ва ўсе часы ад "мясцовых" да сусветных спаборніцтваў.

— **А на якім узроўні гандбол у Беларусі?**

— Ён развіты слабавата. Адсутнічаюць добраасначаныя спартыўныя базы для трэніровак. І ўвогуле няма грошай для ўдасканальвання гандбола. Няшмат трэнераў-спецыялістаў у гэтай галіне.

Нават дома Вера Мальцава думае аб рабоце, перамогах і няўдачах. Не, яна гатуе шыкоўны мясны салат і галубцы. Усё даведзена да ладу, як у дбайнай гаспадыні. Але варта толькі кінуць вокам і нельга не заўважыць калекцыю сапраўдных спартыўных мячоў. За "асаблівыя" заслугі ўзнагароджвае адным з іх сваіх выхаванцаў. Ці не гонар атрымаць мяч ад трэнера?

Ірына РАБУШКА.

■ ТЭСТ

## Вада камень точыць?

**1. Вы адчуваеце недамаганне і...**
а) тэрмінова прымаеце меры экстраннай прафілактыкі (3)
б) няхай будзе тое, што будзе (0)

**2. У вас сур'ёзныя праблемы на рабоце. Вы...**
а) будзеце чакаць вырашэння ў той ці іншы бок (0)
б) пачняце на ўсякі выпадак шукаць новае месца (3)

**3. Ці любіце вы глядзець тэлесерыялы?**
а) так (0)
б) не (3)

**4. У вашых планах на дзень пачаліся збоі. Для вас гэта...**
а) амаль катастрофа (0)
б) прыкрая перашкода (3)

**5. Ці зайздросцілі вы ў дзяцінстве хлопчыкам?**
а) так (3)
б) не (0)

**6. Калегі спрабуюць ўзваліць на вас сваю работу. Вы...**
а) з неахвотай, але прымецеся за справы (0)
б) паставіце пытанне аб раздзяленні абавязкаў (3)

**7. Ці ёсць у вас адчуванне, што вам мала 24 гадзін у сутках?**
а) так (3)
б) не (0)

**8. Важная для вас справа зайшла ў тупік. Ваша рэакцыя:**
а) напэўна, ёсць яшчэ нейкае выйсце, трэба толькі пашукаць (3)
б) баюся, я не хутка зарыентуюся, што ж мне цяпер прадпрыняць (0)

**9. Вам ужо трэці чалавек гаворыць, што вы папраўціліся. Ваша рэакцыя:**
а) ім здалося! (0)
б) тут жа пачну рабіць практыкаванні і сяду на дыету (3)

**10. Вы вельмі хочаце паехаць на адпачынак за мяжу, але сродкі ў вас абмежаваныя. Па якім шляху вы пойдзеце?**
а) звярнуся ў 1-2 турфірмы і, калі знайду што-небудзь па грашах, тады паеду (0)
б) праведу некалькі дзён на тэлефоне, у Інтэрнэце, разгледжу тэрміновыя туры, спецпрапановы і абавязкова знайду тое, што мяне задаволіць (3)

## Адказы

**Ад 0 да 9 ачкоў**

Вам здаецца, што ўсе падзеі не залежаць ад вас. А калі і залежаць, у вас няма сіл на іх паўплываць. У такой пазіцыі ёсць 2 плюсы: уменне чакаць можа аказацца бясцэнным, а вынік – узнагарода. Але так бывае не заўсёды. Таму ніколі не позна навучыцца ўмешвацца ў свой лёс.

**Ад 10 да 20 ачкоў**

Вы можаце і браць быка за рогі, і, калі трэба, на час залегчы на дно. Вось толькі не заўсёды бываеце ўпэўненыя да канца, чаму аддаць перавагу. Не перажывайце: усё добра па-свойму і можа прывесці да жаданага выніку. Галоўнае – дзейнічаць упэўнена.

**Ад 21 да 30 ачкоў**

Вы такія энергічныя, вы прывыклі, што ўсё адбываецца з вашым непасрэдным удзелам, таму проста не паверыце, калі скажуць, што многае магло б вырашыцца з цягам часу само сабой. Бывае, ваша празмерная прадпрымальнасць толькі шкодзіць справе.

■ З ГІСТОРЫІ ПРОМЫСЛАЎ

# Бляск і галеча гуты «Залессе»

## Шклозавод «Залессе» ля Ільі – самае старое з дзеючых прадпрыемстваў рэгіёну. Яму амаль 240 гадоў

**ВІЛЕЙКА. Існуе ў раёне прадпрыемства, якому каля 235 гадоў, — гэта шклозавод "Залессе". Па звестках, яго заснаваў не пазней 1769 года ў сваім маёнтку Ілья на беразе аднайменнай рэчкі граф Ян Салагуб, маёр артылерыі. З 1774 года – генерал-ад'ютант караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Пазней, у Расійскай арміі, — шэф Беларускага гусарскага палка. Яго ўнук Уладзімір Салагуб — вядомы рускі пісьменнік XIX стагоддзя.**

У 1792 годзе **Ян Салагуб** прадае маёнтак, у які ўваходзіла больш за дзесяць навакольных вёсак з гутай (гута – даўнейшая назва шклозавода) вялікаму падскарбію Вялікага княства Літоўскага **Міхалу Клеафасу Агінскаму**, пазней вядомаму дзяржаўнаму дзеячу і музыканту. За ўдзел апошняга ў нацыянальна-вызваленчым паўстанні 1794 года на баку Тадэвуша Касцюшкі ўсе яго маёнткі, у тым ліку і Ілья, былі канфіскаваны ў расійскую казну і раздадзены імператрыцай Кацярынай II сваім верным памочнікам.

Маёнтак Ілья з гутай перайшлі да новага графа-фельдмаршала **Мікалая Салтыкова**, аднаго з прадстаўнікоў знатнага расійскага роду Салтыковых, якія ў XVIII стагоддзі далі 3 генералаў-фельдмаршалаў, 2 генералаў-аншэфаў, 7 сенатараў, 5 ґубернатараў і іншых дзяржаўных дзеячаў.

У той час на тэрыторыі Беларусі працавала ўсяго 11 шкляных мануфактур. Дзевяць з іх, у тым ліку і Ільянская гута, былі тыповымі прыгоннымі прадпрыемствамі. Яе прадукцыя (бутэлькі, штофы, графіны, шклянкі, аптэчны посуд і аконнае шкло) была разлічана ў першую чаргу на заможных людзей і прадавалася на мясцовым рынку. Але попыт на шкляныя вырабы пастаянна рос, і яны паступова пачынаюць вывозіцца ў Вільню, Мінск і іншыя гарады.

Далучэнне беларускіх земляў да Расіі адкрыла больш шырокія магчымасці для эканамічнага развіцця мясцовых прадпрыемстваў. Так Ільянская гута была некалькі ўдасканалена і ў год выпрацоўвала вырабаў на 8045 рублёў. У 1800 годзе тут было выраблена 11 тысяч графінаў, круглых у дне, квартаў гладкіх і аздобленых шліфоўкай, больш за 3 тысячы кілішкаў, 1 тысяча бутэлек, 2 тысячы шклянак шліфаваных і графіраваных, больш за 1,5 тысячы іншага шклянога посуду, а таксама 3 скрыні ліставога шкла. Знойдзеныя рэшткі глінянага посуду прыводзяць да высновы, што там яшчэ абпальвалі і кераміку.



Так заканчвалася працоўная змена на шклозаводзе "Залессе" 40 гадоў таму назад. Фота з архіва шклозавода.

Побач з гутай вырасла і паселішча, якое так і называецца – Старая Гута (цяпер у межах Ільі).

У 1804-1806 гадах маёнткам і гутай валодаў генерал-маёр **Здзяхоўскі**, а пасля яны зноў вярнуліся да мясцовых уласнікаў. Спачатку іх купіў мінскі губернскі маршалак памешчык **Валадкевіч**. Усе вытворчыя працэсы гуты адбываліся ў будынку мануфактуры. Асноўныя віды сыравіны здабываліся на землях яе гаспадароў. Мясцовыя пяскі, крэйда і вапна, паташ і попел ішлі ў вытворчасць.

**Прыйшоў час, калі навакольныя лясы былі спустошаныя, і гуту перанеслі ў 1815 годзе ў засценак Стрэжыслаў, багаты на лясы. На новым месцы пабудавалі тры печы. Неўзабаве тут працавала 26 прыгонных, якія, акрамя markрознага посуду, выпускалі ў год да 2015 лістоў аконнага шкла. Побач вырасла новае паселішча шкловытворцаў – Новая Гута.**

У 1820 годзе маёнтак і гуту атрымаў у спадчыну **Станіслаў Радзішэўскі** (1788-1844). Ён быў прафесійным вайскоўцам: напачатку служыў у расійскім войску, а падчас вайны 1812 года ў французскім войску атрымаў званне падпалкоўніка. Пасля вызвалення з расійскага палону адышоў ад вайсковай службы, ажаніўся з **Кларай Абрамовіч** з Беніцы і стаў жыць у Ільі. Яго арганізатарскія здольнасці паспрыялі таму, што ён быў абраны павятовым маршалкам спачатку ў Вільні, а затым ў Вілейцы. У паўстанні 1830-1831 гадоў супраць расійскага панавання на землях былой Рэчы Паспалітай Радзішэўскі прыняў актыўны ўдзел як ваенны начальнік Вілейскага павета, а потым ў званні палкоўніка ў корпусе Гэлгуда ўзначаліў пяхотны полк.

На задушэнне паўстання ў Вілейскі павет быў накіраваны Тэпцярскі казачы полк пад камандаваннем палкоўніка **Бальцэнталя**, які, шукаючы паўстанцаў, у першую чаргу наведаў сядзібу іх камандзіра ў Ільі і дашчэнту яе разбурыў і разрабаваў. Жонка Радзішэўскага, **Клара**, хутка пасля гэтага двойчы падавала скаргу мінскаму ваеннаму губернатару князю **Даўгарукаву**, што стала падставай для разбірацельства на месцы некалькіх чыноўнікаў.

Высветлілася, што з указанага маёнтка 11 красавіка 1831 года на 30 вазах былі вывезены найбольш каштоўныя ўпрыгожванні з каштоўных металаў і камянёў, старажытны посуд, сталовае срэбра, нумізматычныя і мінералагічныя калекцыі, усё дворнае збожжа, садавіна, гародніна, спіртныя напоі і іншы правіянт, а таксама захоплена ўся дворная жывёла. Адных толькі дываноў было забрана 14 штук, 25 карцін і некалькі дзесяткаў сямейных партрэтаў, 5 рэдкіх музычных інструментаў, вялікая бібліятэка, архіў і іншыя гістарычныя і мастацкія каштоўнасці такіх вядомых у Беларусі родаў, як Радзівілы, Коцелы, Бржастоўскія і Валадковічы. Усё астатняе, што камандаванне палічыла непатрэбным, было аддадзена карнікам на разгром і рабаванне, якія цягнуліся ўсю ноч. Толькі ў 12 гадзін наступнага дня цяжка гружаны абоз рушыў у кірунку Сосенкі на Вілейку і далей на Вільню. Па некаторых звестках, гэты полк рабаваў і іншыя маёнткі ў Вілейскім павеце. Клара Радзішэўская ацаніла свае страты спачатку ў 160 тысяч рублёў асігнацыямі, а пазней і ў 205 тысяч рублёў.

Улады ўсялякім чынам жадалі хутчэй пазбавіцца ад гэтай судовай справы, тым больш, што 21 снежня 1831 года мінская губернская судовая камісія завочна асудзіла паўстанцкага камандзіра Станіслава Радзішэўскага.

Праз два гады кіраўнік МУС Расіі дакладваў па гэтай справе самому імператару, які наклаў рэзалюцыю аб прыпыненні судавядзення, а так як муж скаржніцы прызнаны дзяржаўным злачынцам, то ўсе страты яна павінна "прыпісаць да віны свайго мужа ў сувязі з дзейнасцю войскаў".

Маёнтак Ілья і ўся іншая маёмасць, у тым ліку і новая гута, былі зноў канфіскаваны ў дзяржаўную скарбонку.

У гістарычнай літаратуры ёсць звесткі, што ў 40-х гадах XIX стагоддзя на Вілейшчыне з'явіўся невялікі шклозавод каля вёскі Паграбліцы. Але гэта памылка ў напісанні назвы. На самой справе вёска называецца Паграбішча, а ў той час яна з'яўлялася аддзеленым участкам маёнтка Ілья. Вычарпаўшы ўсе прыродныя рэсурсы каля засценка Стрэжыслаў (Новая Гута), вытворчасць шкла была перанесена ў новае месца і стала паступова перарастаць у капіталістычную, а прыгонныя рабочыя замяняліся на вольнанаёмных.

У канцы XIX стагоддзя, калі насельніцтва стала адмаўляцца ад лучыны і пераходзіць на лямпу, асабліва ўзмацніўся попыт на шкло да яе. Таму ў той час Залеская гута, акрамя выпуску гэтых вырабаў, спецыялізавалася на аптэкарскім і хімічным посудзе.

**Калі ў 1879 годзе завод перайшоў да Нарбута Васнеўскага, на ім працавала 36 чалавек, а прадукцыі выраблялася на 4800 рублёў. У 1880-1890-я гады на гуце працавала ўжо 110 рабочых, а ў 1903 годзе – 157 і прадукцыі выпускалася на 90700 рублёў. У пасёлку гутнікаў у той час пражывала 420 чалавек. З 1900 года завод перайшоў у рукі купца Левіна, які здаў яго ў арэнду Цілесу.**

У гэты час у краіне стварыліся ўмовы для ўзнікнення манапалістычных аб'яднанняў. Сярод іншых у 1910 годзе было створана і акцыянернае таварыства па эксплуатацыі Залескага шклозавода, у якое ўваходзілі **Цілес**, **Ашкіназі** і **Грытгаўз**. З пачаткам першай сусветнай вайны тут выпускалася пераважна толькі зялёнае аконнае шкло і просты посуд для мясцовага рынку.

На той час з 23 існаваўшых на тэрыторыі Беларусі гут працавала толькі 9. У канцы 1916 года акцыянеры Залескай гуты, захапіўшы з сабой усё каштоўнае абсталяванне і грошы, уцяклі ўглыб Расіі. З гэтага часу і да 1936 года гута не працавала.

**Анатоль РОГАЧ.**
**Заканчэнне будзе.**

■ КАЛЯНДАР

**14 мая. 190 год з дня нараджэння Каятана Касовіча** (1814, Полацк – 1883), беларускага і расійскага вучонага ў галіне ўсходазнаўства, аднаго з першых санскрытолагаў Расіі, члена Рускага геаграфічнага таварыства.

**15 мая. Мікалай Шчасновіч** (1894 - 1969), акцёр і рэжысёр, заслужаны дзеяч культуры Беларусі – 110 год з дня нараджэння.

**15 мая. Фёдар Коршунаў** (1934, Краснапол. р-н), вучоны ў галіне тэхнічнай фізікі, член-карэспандэнт НАН Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1980 г.) – 70 год з дня нараджэння.

**15 мая. Ія Папова** (1924), архітэктар, аўтар шматлікіх праектаў забудовы Мінска – 80 год з дня нараджэння.

**15 мая. Валянцін Арцём'еў** (1934), вучоны ў галіне тэхнічных навук, член-карэспандэнт НАН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі Беларусі – 70 год з дня нараджэння.

**15 мая. Анатоль Сердзюкоў** (1944, Буда-Каш. р-н), фізік-тэарэтык, член-карэспандэнт НАН Беларусі – 60 год з дня нараджэння.

**17 мая. Судрабкалн** (да 1925 Пейне Арвід); 1894 – 1975, народны паэт Латвіі, перакладчык твораў беларускіх аўтараў, акадэмік АН Латвіі, заслужаны дзеяч культуры Латвіі, удзельнік першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі – 110 год з дня нараджэння.

**18 мая. Анатоль Жалдакоў** (1929), заслужаны архітэктар Беларусі – 75 год з дня нараджэння.

**18 мая. Георгій Дубікоўскі** (1934, Гродна), вучоны ў галіне аграхіміі, член-карэспандэнт НАН Беларусі – 70 год з дня нараджэння.

**18 мая. Ігар Марозаў** (1954, Мінск), архітэктар, педагог, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1998 г.), прэмій міжнародных архітэктурных конкурсаў у Францыі (1984 г.), Балгарыі (1985 г.), Югаславіі (1987 г.) – 50 год з дня нараджэння.

**19 мая. Пётр Смідовіч** (1874, Рагачоў – 1935), рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч – 130 год з дня нараджэння.

**19 мая. Мікіта Круглікаў** (1914, Чачэр. р-н - 1943), удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, Герой Савецкага Саюза (1944 г.) – 90 год з дня нараджэння.

**19 мая. Сяргей Валынскі** (1874 – ?), рэвалюцыянер, член Мінскай групы РСДРП – 130 год з дня нараджэння.

**19 мая. Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы** (Мінск; 1944) – 60 год з часу заснавання (адкрыты 20.09.1945 г.).

**20 мая. Канстанцін Алексютовіч** (1884, Пухав. р-н – 1943), балетмайстар – 120 год з дня нараджэння.

**20 мая. Марыя Адамейка** (1929 – 1990), спявачка, заслужаная артыстка Беларусі – 75 год з дня нараджэння.

**20 мая. Вайна Расіі з Рэччу Паспалітай** 1654 – 1667 гг.–350 год з пачатку.

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

# Дзесяць хвілін горычы

**Маладзечна – ЗЛіН (Гомель) 1:1.**

Галы: Вострыкаў (28); (60).

Склад: Міхайлаў – 4.Мятліцкі (12.Татун,70), 5.Бычкоўскі (14.Пятроўскі,65), 3.Раманоўскі – 10.Яшын, 2.Альховік, 9.Дараховіч, 8.Вышынскі, 6.Г.Савіцкі – 7.Вострыкаў, 11.Шушкевіч (13.Вяжэвіч,46).

8 мая. 1200 гледачоў. Суддзя Лазнюха.

З-за траўм у гаспадароў адсутнічаў **Дрозд** (пашкоджана пахвіна), у гасцей – лепшы бамбардзір стартавых тураў **Удодаў**.

"Маладзечна" валодала перавагай на працягу першага тайму і пачатку другога. Да забітага гола запомнілася атака, якую завяршаў недакладны ўдар галавою **Савіцкага** з флангавай падачы **Альховіка**. Узяцце варот стварыў **Вострыкаў**. Падхапіўшы мяч у сярэдзіне поля на правым краі і працягнуўшы да сегменту штрафной, ён моцна прабіў у правы ніжні кут. Хаця прыезджы галкіпер кантраляваў палёт мяча і нават крануўся яго, але адбіць не здолеў (1:0).

Пасля перапынку гаспадары маглі падвоіць лік. Па-першае, пасля навесу **Раманоўскага** ўдарам у адзін дотык не трапіў у "рамку" Вострыкаў, знаходзячыся на куце варатарскай. Па-другое, камбінацыю, распачатую **Мятліцкім і Вышынскім** і працягнутую навесам Савіцкага з левага флангу, завяршыў без перашкод ударам галавой у скачку **Вяжэвіч**, але пацэліў вышэй перакладзіны.

Тут настала чорная 10-хвілінка "Маладзечна". Спачатку госці адабралі мяч ля нашай штрафной і хуценька накіравалі за спіны абаронцам на правы фланг. Адтуль гамяльчанін прастрэліў уздоўж варот на двух пакінутых без прыгляду партнёраў – забіў **Савельеў**, адзін з лепшых бамбардзіраў лігі ў мінулыя сезоны. Потым траўмы атрымалі **Бычкоўскі** (пахвіна) і Мятліцкі (твар). У пасляматчавых гутарках прадстаўнікі клуба тлумачылі, што траўмы пачасціліся з-за адсутнасці элементарных прафілактычных медыкаментаў, у прыватнасці, вітамінаў.



**Аляксандр Вострыкаў (ФК "Маладзечна") імкнецца апрацаваць мяч ля штрафной пляцоўкі ЗЛіНа.**

Фота www.fcmolodechno2000.com.

Пасля замен Бычкоўскага і Мятліцкага абарона "Маладзечна" прыняла эксперыментальны выгляд. Адразу ж галявы момант меў ЗЛіН, але нападаючы дзейнічаў нязграбна.

Напрыканцы матча ў адказ на хуткасныя атакі гасцей рэальны галявы шанц стварыў Вяжэвіч, ударам са штрафнога страсянуўшы штангу. Незадоўга да фінальнага свістка быў гол Вострыкава, не залічаны з-за гульні рукою.

Тарпеда-Кадзіна (Магілёў) – Смаргонь 0:0.

Склад: Канашэвіч – Курак (Дукса,23), Сінічын, Дзігілевіч, Трындзюк – Тарасаў, Гамановіч (Кухлей,58), Дзігілевіч, Карасёў, Кукалевіч – Вярбіцкі (Канончанка,72).

8 мая. 200 гледачоў. Суддзя Вялічка.

Баранавічы – Дынама-Юні 3:1, Граніт – Камунальнік 3:0, Верас – Хімік 0:0, Ліда – Вертыкаль 0:0, Днепр-ДЮСШ-1 – Ведрыч-97 1:2, Бяроза – Лакаматыў 3:4.

1. Лакаматыў ............. 10
2. Баранавічы ............ 9
3. ЗЛіН ..................... 8
4. Граніт ................... 7
5. Ліда ....................... 7
6. Ведрыч-97 .............. 7
7. Бяроза ................... 6
8. Камунальнік ........... 6
9. Маладзечна ............ 5
10. Смаргонь ............... 5
11. Вертыкаль .............. 5
12. Хімік ..................... 5
13. Верас ..................... 4
14. Тарпеда-Кадзіна .... 2
15. Днепр-ДЮСШ-1 ..... 1
16. Дынама-Юні ........... 0

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ГАРАДОШНЫ СПОРТ

## Першы круг клубаў

**Змянілася сістэма правядзення клубнага чэмпіянату краіны. Шэсць клубаў першай лігі (мацнейшай) правялі матчы першага круга на працягу аднаго уік-энда ў Маладзечне. Другі круг адбудзецца ў верасні.**

У складах каманд адбыліся пэўныя змены. Большасць іх звязана з калектывам Маладзечанскага раёна, які замяніў сабою СКА з Краснага. Сюды прыйшлі **Данілаў** з "Кэмпі", **Янушкевіч** з "Юнацтва", а таксама **Туронак**, які апошнім часам не гуляў, бо працуе ў раённым аддзеле ФКСіТ. Ёсць і адчувальныя страты – **Кулак** і **Зізюк** перайшлі ў "Аўтасіб".

1. Нёман (Бярозаўка) ........ 15
2. Кэмпі (Маладзечна) ...... 12
3. МЭС (Маладзечна) ........ 9
4. Маладзечнамэбля .......... 4
5. Маладзечанскі раён ...... 4
6. Аўтасіб (Мінск) .............. 0

Усе шэсць клубаў былі дастойныя адзін аднаго. "Нёман" у стартавай гульні перамог МЭС 3:0, а ў заключнай – "Кэмпі" 3:2, такім чынам звергнуўшы фаварытаў двух апошніх сезонаў. У яго складзе лідэрам праявіў сябе **Чаркоўскі**. За "Кэмпі", які, саступаючы МЭСу 0:2, у выніку перамог, добра выступіў **Яршэвіч**.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ДЗЮДО

## І хлопцы, і дзяўчаты

**МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ. Рэспубліканская спартакіяда для 14-15-гадовых удзельнікаў сабрала 33 спартыўныя школы 4-8 мая ў Мінску.**

Маладзечанцы выставілі 9 хлопцаў у складзе абласной СДЮШАР, якая заняла другое месца. Калектыў дзяўчат са смаргонскай СДЮШАР заняў другое месца.

У асобных вагавых катэгорыях перамаглі **Ганна Радзевіч, Кацярына Валюжынец, Віталь Шаўлюк**. Другімі аказаліся **Арцём Навум і Анастасія Більша**, трэцімі – **Павел Акуліч, Уладзімір Грышкевіч і Аляксей Раманчык**.

У той жа тыдзень на міжнародны турнір у расійскі Елец ездзілі пяцёра маладзечанцаў 1992 г.н. Трэцімі месцамі адзначыліся Ян Панарын і Андрэй Рашатняк.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ШАХМАТЫ

## Каментарый Качаткова

**Віталь Качаткоў на шахматным турніры, што завяршыўся 5 мая, быў адначасова і ўдзельнікам, і арганізатарам. Прапануем яго погляд на гэтыя спаборніцтвы.**

– Пачаў трыма перамогамі: над **Андрэем Чаеўскім, Вінаградавым** (мая лепшая партыя на турніры – дзейнічаў чорнымі фігурамі) і **Германам Качатковым** (вясёлая была гульня з незразумелым да самага канца зыходам). Потым пайшла складаная серыя: цяжка было ў кагосьці выйграць, а прайграваць было нельга. Атрымаліся нічыі са **Стэцам, Ахрамеевым, Куліковым, Навіцкім**. Потым перамог **Канстанцінава** і вырашыў напружыцца супраць **Аляўдзіна і Лагвілавы**, але справа скончылася двума нічыімі. Напрыканцы перамог **Дыдзіка** ў цікавай партыі.

Крыху "заматвала" вырашэнне розных арганізацыйных пытанняў. Напрыклад, у расіян, што ехалі з Курска, пад Гомелем зламалася машына.

Моц турніру атрымаўся прыблізна 4-й катэгорыі ФІДЕ (найвышэйшая – 19-я). Прызёры атрымалі ад спонсараў па 200, 150 і 100 тысяч рублей плюс рэчавыя прызы. Ад гарадскога аддзела фізкультуры – прыгожы шахматны кубак. Міжнародным майстрам за ўдзел была выплачана сума ў 100 умоўных адзінак, а Кулікову са Стэцам яшчэ і праезд ап-



лачваўся. Размяшчэнне і харчаванне – за кошт гаспадароў. Такая агульная практыка.

Важна зазначыць, што ў Мінскай вобласці турнір падобнага рангу прайшоў упершыню. Гэта заслуга кіраўніцтва горада і нас, мясцовых шахматыстаў.

Збіраемся 14 мая ў Германію на камандную сустрэчу – будзем адстойваць гонар Маладзечна. Летам ёсць жаданне звазіць сяброў у Чэхію на суперфестываль.

Буду імкнуцца і надалей радаваць сваімі поспехамі.

**Падрыхтаваў Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ЭКЗОТЫКА

## Гульня ў фрысбі

**МАЛАДЗЕЧНА. Паказальныя выступленні па новай для Беларусі каманднай гульні фрысбі алтымат наладзілі 28 красавіка на базе СШ№14 швед Пол Эрыксан, мінчане Андрэй Антановіч, Таццяна Шамецька, расіяніне Георгій Фёдараў, Ігар Вінічэнка і латышка Крысціна Обадава.**

Гэта выступленне – частка сумеснага шведска-беларускага праекта па развіцці фрысбі. «Мэта гэтага праекта, – сказаў Андрэй Антановіч, – знайсці людзей, якія зацікавяцца новым відам спорту і складуць аснову беларускай федэрацыі».

Андрэй Антановіч і яго калегі прадстаўлялі гульню з лятаючым дыскам, якую прыдумалі амерыканцы ў канцы 60-х гадоў XX стагоддзя. У Беларусі яна з'явілася, па словах Андрэя Антановіча, каля трох гадоў таму.

Фрысбі нагадвае адначасова рэгбі і баскетбол: на полі – дзве каманды, кожная з якіх мае сваю зону. Мэта кожнага гульца – злавіць пас ад партнёра ў зоне праціўніка. За гэта камандзе залічваецца ачко. Гульня на адкрытай пляцоўцы працягваецца да пэўнай колькасці ачкоў або да заканчэння часу – удзельнікі абмяркоўваюць гэта папярэдне. Галоўная ідэя і асаблівасць фрысбі ў тым, што гульня праходзіць без суддзяў. Гульцы самі адказваюць за парушэнні правілаў, самі вырашаюць спрэчныя пытанні. Калі дамовіцца не ўдаецца, наладжваюць перагульванне.

Падчас выступлення ўсе ахвотныя маглі набыць рознакаляровыя лятаючыя дыскі. Намеснік дырэктара СШ№14 па фізічнай культуры **Уладзімір Лашук** сказаў, што элементы гульні можна выкарыстоўваць падчас размінкі на ўроках фізкультуры і ў іх школе абавязкова будуць гуляць у фрысбі.

**Святлана ЦІШКО.**

■ АНОНС

**14-16 мая. Вілейскі раён. Веласпорт.**

Адкрытае першынство і чэмпіянат Мінскай вобласці па праграме Алімпійскіх дзён моладзі ў двух узростах і другі этап Кубка краіны сярод дарослых.

**15 мая. 16-00. Смаргонь – Верас (Нясвіж).**

Другая ліга, +3=1-4 7-15. Апошні матч – 0:2 на выездзе 07.10.01.

**15 мая. Ведрыч-97 (Рэчыца) – Маладзечна.**

Вышэйшая ліга. +7=0-5 21-9. Апошні матч – 2:0 (Турчыновіч – 2) дома 30.09.01.

**Табло**

■ ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

**СМАРГОНЬ. Выхаванцы СДЮШАР прывезлі два трэція месцы з рэспубліканскіх Алімпійскіх дзён моладзі 1987-88 г.н.**

Узнагароды на рахунку Анастасіі Рогач і Таццяны Яцкевіч.

■ ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

**ВІЛЕЙКА. Спаборніцтвы па лёгкаатлетычнай эстафеце прайшлі 9 мая ў гонар Дня Перамогі і Дня друку.**

Сярод пяці каманд школьнікаў перамаглі прадстаўнікі СШ№3. Сярод чатырох каманд навучэнцаў першымі фінішавалі прадстаўнікі ПТВ-48.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

МЯДЗЕЛ. На раённым кросе школьнікаў у сваіх групах перамаглі Мядзельская СШ№1, Будслаўская СШ і Яцкавіцкая базавая школа. У асабістым заліку першыя месцы занялі Вольга Зубар, Ігар Анкудовіч, Аляксандра Жалнова, Аляксандр Гушча, Наталля Лапоха, Андрэй Спальвіс.

**Святлана ЦІШКО.**

